

*Газета заснавана ў 1938 годзе.*
*Выходзіць з 1997 года.*

# Газета Слонімская

*№ 1 (1). Слонім. Чацвер, 24 красавіка 1997г.* | *Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік* | *Кошт 1 тыс. рублёў*


**АД РЭДАКЦЫІ**

Сёння выйшаў у свет першы нумар незалежнай «Газеты Слонімскай». Дакладней будзе сказаць, што газета аднавіла сваё існаванне праз 58 гадоў. Упершыню газета з такой назвай, толькі па-польску, выйшла ў нашым горадзе 25 снежня 1938 годзе, якраз на Каляды. Гэты тыднёвік пісаў пра грамадска-гаспадарчае і культурнае жыццё Слоніма. Друкаваўся ён да верасня 1939 года. Усяго свет пабачыла прыкладна 30 нумароў.



Rok I. Nr. 1. Słonim. Niedziela 25 grudnia 1938 r. Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. Cena numeru 10 gr.

GAZETA SŁONIMSKA

Tygodnik poświęcony sprawom społecznym, kulturalnym i gospodarczym

Redakcja i administracja: SŁONIM, ULICA OGRODOWA Nr. 8. Kartoteka poszt. przek. rozrach. w Słonimie Nr. 1

Prenumerata miesięczna: w Słonimie z odnoszeniem do domu i zamiejscowa wraz z przesyłką 40 groszy.

Cena ogłoszeń: za 1 wiersz milimetrowy lub jego miejsce szerokość 1 szpalty (układ 5 szpaltowy): przed tekstem 50 gr., w tekście 40 gr., za tekstem 20 gr. Drobne-wyraz 10 gr. Poszukujący pracy za wyraz 5 gr.

Рэдактарам і выдаўцом «Gazety Słonimskiej» была Людміла Новік. Газета пазбягала палітычных тэмаў. Прапагандавала мясцовы патрыятызм, акцэнтуючы гістарычную веліч Слоніма. Галоўная адметнасць выдання была ў тым, што газета імкнулася даваць аб'ектыўную і аператыўную інфармацыю пра жыццё горада і павета, да мінімума зводзіла рэдакцыйныя каментары.

Менавіта такога накірунку будзе прытрымлівацца і наша газета. Друкавацца яна будзе на беларускай і рускай мовах. На жаль, першапачаткова мы не можам выходзіць рэгулярна штотыдзень. На гэта ёсць пэўныя прычыны, у прыватнасці арганізацыйныя, якія мы спадзяемся хутка вырашыць. Мяркуем, што ў траўні выпусцім яшчэ некалькі нумароў. З чэрвеня газета стане ўжо штотыднёвікам і будзе выходзіць па чацвяргах. Прадавацца яна будзе ў шапіках «Белсаюздруку», у некаторых крамах горада, а таксама яе можна будзе набыць у грамадскіх распаўсюднікаў. З другога паўгоддзя газету можна будзе атрымліваць і па падпісцы.

**Наш падпісны індэкс 64042.**

Мы будзем імкнуцца рабіць газету цікавай, разнастайнай і праўдзівай. Аднак мы разлічваем і на Цябе, наш чытач. Рэдакцыя з задавальненнем будзе змяшчаць на старонках газеты твае пісьмы пра цікавых людзей, пра жыццё горада і раёна, незвычайныя гісторыі, актуальныя падзеі і г.д.

У газеце запланавана і гісторыка-літаратурная старонка, а таксама звесткі пра жыццё і дзейнасць слонімцаў у свеце. Свае пісьмы дасылайце на адрас: **231800, г.Слонім-2, а/с 5.**

Мы спадзяемся, што «Газета Слонімская» стане не толькі адным з вашых любімых выданняў, але і гонарам кожнага грамадзяніна Слоніма, які хоча мець мясцовую незалежную прэсу.

**Рэдакцыя «Газеты Слонімскай»**

# На адзін мільён долараў у слонімцаў стала менш

**Прыблізна на такую суму грошай дзве жыхаркі нашага горада абдурылі некалькі дзесяткаў людзей і зніклі (не выключана, што за мяжу).**





*Дуэт слонімскіх мільянерак — Валянціна Ушкар-Валяк (злева) + Галіна Адамовіч.*

Як паведаміў карэспандэнту газеты адзін з пацярпелых, механізм афёры быў вельмі просты. 43-гадовая Галіна Адамовіч, работніца культуры, і яе сяброўка 32-гадовая Валянціна Ушкар-Валяк, былая выхавацелька дзіцячага садка № 13, займаючыся бізнесам, напэўна, ўбачылі, што ў некаторых слонімцаў водзяцца немалыя грошы. Таму яны і вырашылі прыбраць іх сабе па прынцыпе добра вядомых фінансавых пірамід.

А рабілі гэта так. Жанчыны пазычалі ў чалавека пад 10 працэнтаў, напрыклад, 1000 долараў і праз пэўны час аддавалі, але ўжо не тысячу, а 1100 долараў. 100 долараў зверху яны бралі ў іншага крэдытора, якому ў сваю чаргу вярталі пазыку таксама з «навапрам», якія бралі ўжо з той сумы, якую пазычалі ў наступнага чалавека, і г. д. Пасля яны зноў пазычалі грошы ў першага крэдытора, другога, трэцяга і г. д. і таксама своечасова аддавалі. Людзям спадабалася, што іх грошы не ляжаць без справы, а працуюць — таму самі потым прапаноўвалі свае долары. Больш за тое: агітавалі гэта рабіць сваякоў, суседзяў, сяброў. Такім чынам, кола ўдзельнікаў у стварэнні піраміды пастаянна павялічвалася. А некаторым так спадабалася гэта гульня, што сталі пазычаць долары ў знаёмых, каб аддаць іх жанчынам і атрымаць больш працэнт.

Тым часам Адамовіч і Ушкар-Валяк сабралі ўнушальную суму (паводле аператыўнай інфармацыі міліцыі, прыкладна 1 млн. долараў) і, падабраўшы ўдалы момант, зніклі. Падманутым людзям нічога не заставалася, як звярнуцца ў праваахоўныя органы. Па фактах заяваў грамадзян Слонімская пракуратура ўзбудзіла крымінальную справу. Праўда, чым яна скончыцца, цяжка сказаць.

Як заявіў карэспандэнту газеты пракурор Анатоль Яўлаш, ахвяры слонімскай піраміды свае распіскі на пазыку грошай не афармілі, як тое належыць, у натарыяльнай канторы, і таму гэтыя дакументы не маюць пэўнай законнай сілы.

Аднак самае цікавае ў гэтай гісторыі, што ў міліцыю пакуль звярнулася толькі 18 чалавек. У іх заявах фігуруюць сумы ад 600 — да 10 тыс. долараў. А вось астатняя публіка не спяшаецца ісці ў міліцыю. І яно вядома чаму. Напрыклад, у таго ж дырэктара завода, які пазычыў жанчынам 40 тыс. долараў, службы кантроля могуць і запытаць: дзе ён узяў гэты капітал? Па звестках рэдакцыі, на нажыўку жанчын таксама паквапіліся: начальніца аднаго са слонімскіх банкаў (30 тыс. долараў), афіцэр міліцыі (30 тыс. долараў) і іншая начальнікі горада.

У пастку аферыстак нават патрапіў і адзін са светароў Слоніма. Магчыма, што для гэтых людзей дзесяткі тысяч долараў — невялікая страта: як грошы прыйшлі — так яны і пайшлі. А вось для іншых — гэта сапраўдная трагедыя. У прыватнасці, адна сям'я з Жыровічаў, каб зарабіць на працэнтах, пазычыла ў сваякоў 17 тыс.долараў. У выніку людзі вымушаны былі прадаць усе свае каштоўныя рэчы, у тым ліку і трохпакаёвую кватэру, каб разлічыцца са сваякамі.

Цяпер паміж слонімскай «зялёнай» публікай ідуць свае разборкі: высвятляецца, хто, колькі і каму завінаваціў долараў.

Тымчасам 8-гадовую дачушку Валянціны Ушкар-Валяк, якую яна кінула на выхаванне былому мужу, праводзяць і сустракаюць са школы сваякі, баючыся помсты з боку падманутых крэдытораў.

Сёння Адамовіч і Ушкар-Валяк шукае міліцыя ўсёй краіны, а таксама Інтэрпол.

**Валодзя ЯНЧУК**

# СА СВЯТАМ ВЯЛІКАДНЯ!



**У Велікодныя дні ў Слонімскай Свята-Троіцкай царкве адбудуцца набажэнствы:**

**26 КРАСАВІКА**

**ВЯЛІКАЯ СУБОТА**

**8-00** — Літургія

**16-00—20-00** — Асвячэнне Пасхі

**23-00—24-00** — Усяночная

**з 24-00** — Пасхальная ранішняя Літургія

**27 КРАСАВІКА**

**НЯДЗЕЛЯ ПАСХА (ВЯЛІКДЗЕНЬ)**

**17-00** — Вячэрня

**28 КРАСАВІКА**

**ПАНЯДЗЕЛАК**

**10-00** — Літургія

**17-00** — Вячэрня

**Гісторыя**

# Герб Слоніма

**Гэты герб (на блакітным тле залаты леў стаіць на задніх лапах і трымае сярэбраную стралу з падвойным крыжам) слонімскаму старосту Льву Сапегу быў дадзены каралём Жыгімонтам III у 1591 годзе. Старостам Слоніма Леў Сапега стаў у 1586 годзе ва ўзросце 29 гадоў. Ён пакінуў у гісторыі нашага горада значны след. Староста спрыяў уздыму культуры і прамысловасці Слоніма, яго палітычнай значнасці.**

**Аднак першачарговая заслуга Л.Сапегі ў тым, што ён падрыхтаваў і дамогся зацвярджэння Статута 1588 года, які гарантаваў эканамічную, палітычную ды культурную незалежнасць Вялікага княства Літоўскага. Ужо тады Сапега з'яўляўся прыхільнікам не абагоўленай манархіі, а моцнай дэмакратыі, прававой дзяржавы, дзе, паводле ягоных словаў, «павінны панаваць законы, а не асобы».**

**Дарэчы, у красавіку споўнілася 440 гадоў з дня нараджэння Льва Сапегі. Больш грунтоўныя матэрыялы пра гэтага дзяржаўнага і грамадскага дзеяча Вялікага княства Літоўскага можна будзе прачытаць у наступных нумарах нашай газеты.**



**Навіны**

# Ці «нагрэе» бюджэт ваду?

**Увесь мінулы тыдзень у кватэрах слонімцаў не было гарачай вады. Галоўны інжынер гарадскога прадпрыемства цеплавых сетак Мікалай Байкевіч патлумачыў гэта тым, што гаргаз знізіў ціск падачы газа ў кацельні.**

Зроблена гэта было па той прычыне, што камунальнікі завінавацілі газавікам за паліва звыш 40 млрд. рублёў. А камунальнай гаспадарцы гэту суму ў сваю чаргу павінны былі пералічыць з гарадскога бюджэта, але ў мясцовай казне грошай няма. Тым не менш сп.Байкевіч паабяцаў, што надалей гарачая вада будзе падавацца ў кватэры рэгулярна.

# Тэлефонаў стане больш

**Як паведамілі карэспандэнту газеты ў раённым вузле сувязі, у хуткім часе ў Слоніме будзе зманціравана яшчэ адна электронная тэлефонная станцыя.**

Гэта дазволіць, сказалі сувязісты, пашырыць гарадскую тэлефонную сетку прыблізна на 2 тысячы абанентаў. Таксама стала вядома, што ў мясцовай друкарні рыхтуецца да выхаду ў свет новы тэлефонны даведнік.

**А.М.**

**Асоба** *Нашы землякі*

# «Я застаюся генералам беларускай арміі»

**Так заявіў карэспандэнту «ГС» былы міністр абароны Беларусі генерал-лейтэнант Леанід Мальцаў за гадзіну да ад'езда ў Маскву.**



Як вядома, нядаўна ён быў прызначаны першым намеснікам Штаба па каардынацыі ваеннага супрацоўніцтва дзяржаваў СНД. На новай пасадзе яго зацвердзіў Савет кіраўнікоў дзяржаваў СНД. Да гэтага 48-гадовы генерал амаль пяць месяцаў знаходзіўся не пры справе. У лістападзе 1996 года ён быў вымушаны пайсці ў адстаўку...

*«Новая пасада для мяне цікавая як для ваеннага чалавека. Праўда, зараз давядзецца жыць і працаваць у Маскве»,* — сказаў Мальцаў. Разам з тым ён параіў рэдакцыі газеты аб'ектыўна асвятляць рэчаіснасць нашага жыцця, а землякам-слонімцам пажадаў моцнага здароўя і поспехаў. А на развітанне генерал Леанід Мальцаў паабяцаў, што калі ў чарговы раз наведае Слонім, то абавязкова дасць нашай газеце вялікае эксклюзіўнае інтэрв'ю.

**P.S.** Леанід Мальцаў нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Вяценяўка Слонімскага раёна. Пасля заканчэння Суворaўскага вучылішча і Кіеўскага вайсковага вучылішча камандаваў узводам, ротай, батальёнам, палком, дывізіяй, арміяй і корпусам. Скончыў ваенную акадэмію імя Фрунзе і ваенную акадэмію Генеральнага штаба ў Маскве. У 1994 годзе быў прызначаны начальнікам Галоўнага штаба Узброеных сілаў Беларусі, а пазней — міністрам абароны.

**В.В.**

Асоба Нашы землякі

# «Газета ўсіх вуліц Слоніма»

**Менавіта такім выданнем хацеў бы бачыць «Газету Слонімскую» кандыдат гістарычных навук, выкладчык Белдзяржуніверсітэта Павел Лойка, сын нашага земляка, вядомага паэта і навукоўца Алега Лойкі. (На жаль, са старэйшым Лойкам нам не давялося пагаварыць, бо ён на той час быў у Варшаве.)**



На думку Паўла Лойкі, рэгіянальная газета павінна рабіцца для людзей мястэчковых. Па яговых словах, сёння няма ні аднаго выдання, якое пісала б праўду пра беларускае мястэчка. Асноўная частка газет галоўным чынам скіраваная на нейкую палітычную плынь.

*«Я хачу, каб ваша газета была чыста слонімскай,* — адзначае сп.Лойка. — *Трэба, каб яна перадавала каларыт маёй высакароднай зямлі, з яе непаўторным водарам Шчары, маляўнічымі вербамі над Ісай... Лічу, што неабавязкова, каб вашая газета пісала пра вялікія матэрыі. Можна і пра дробнае: пра кожную галінку вярбы, пра вір на Шчары — выхоўваць у людзей патрыятызм да нашай роднай зямлі ліцвінскай. Бо Слонім і ёсць калыска зямлі ліцвінскай»,* — падкрэсліў гісторык Павел Лойка.

В.В.



# Рынок на костях

*Сегодня в Слониме единственным местом тусовки стал рынок.*

**Заметим, не театр, кинотеатр или Дом культуры, а именно — городской рынок. Сейчас даже слонимские «забегаловки-пивнушки» и те опустели. А как только наступают сумерки, городские улицы буквально вымирают. Так и хочеться крикнуть: «Ау, люди, где вы?» «Завтра всех увидишь на рынке», — ответило бы эхо.**



И действительно, к 9-00 по местному времени слонимская публика собирается на своем привычном месте. В Москве подобным местом считается Арбат, в Париже – Монмартр, в Нью-Йорке – Бродвей, в Слониме – Школьная, 2. Местные красавицы, выбираясь в люди, наряжаются в свои лучшие платья. Оно и понятно – где еще можно показать себя. Там хоть и разит селедкой, однако кругом люди, глядишь, кто-нибудь и обратит внимание на твой новый гардероб.

По словам самих торговцев рынка, большинство людей приходят сюда ради любопытства. Торговый ряд для них, что Дерибасовская для одессита. Ведь здесь можно встретить знакомого, узнать и обсудить последние новости, а заодно что-нибудь прикупить.



Худо-бедно, но сегодня городской рынок своими доходами покрывает убыточные сельские магазины потребкооперации. Ежемесячно в кассу райпотребсоюза поступает от продавцов рынка в виде сбора за торговое место до 90 млн. рублей. По мнению руководства слонимских кооператоров, если эти деньги вложить в кирпич и шифер, то через три года можно закончить строительство здания крытого рынка, на завершение строительства которого, по скромным подсчетам, необходимо три миллиарда рублей.

Сейчас же о крытом рынке напоминает только бетонный скелет, который торчит здесь, как памятник промышленной архитектуры перестроечных времен. Станет ли этот монумент в будущем похожим на здание, будет зависеть от наличия денег в кошельке у слонимчан. А пока его железобетонные сваи крепко вбиты в могилы некогда похороненых здесь предков. Выясняется, что территория сегодняшнего рынка была раньше еврейским кладбищем.

**Анатолий МИРСКИЙ**

# Слонимское подземелье

*Если верить легендам, оно существует уже почти 300 лет.*

**На днях в кабинете некогда первого секретаря райкома компартии (сейчас здесь размещается мастерская изобразительных искусств Центра детского творчества) треснул потолок. Огромная щель извилистой паутиной пересекла всю известковую гладь, которую когда-то ласкал мудрый взгляд партийного босса. Вызвали строителей. Те, внимательно осмотрев подозрительную трещину, авторитетно заявили, что виной всему является подземелье, на месте которого и стоит здание бывшего райкома. По их словам, возможно, старые подземные постройки стали рушиться и здание осело. Вместе с тем выясняется, что почти все дома в районе старого города построены буквально на подземных ходах и подвалах.**

## Подземные туннели начали строить иезуиты

В 1705 году, когда иезуиты получили право въезда в Слоним, они стали здесь строить монастыри. В центре города (на территории винзавода и улицы Коммунистической) возвели здания духовной Академии, которая занимала несколько кварталов. Академия имела подземные хранилища и переходы в другие части Слонима. В подтверждение тому, что в городе есть подземные хранилища, говорят следующие факты. Многие жители города еще в начале века во время земляных работ нащупывали потолок подземельев на глубине в несколько метров, пробивали его и опускали в склепы сточные трубы от туалетов и ванн. Канализации в то время в городе еще не было, действовал только водопровод.

Вот что отмечает в своих воспоминаниях Надежда Гайдук, бывшая сотрудница Слонимского краеведческого музея.

*«Мы жили в том месте,* — говорит она, — *где теперь размещается воинская часть* (воспоминания датированы 1967 годом, а в то время воинская часть находилась на территории винзавода). *Житель нашей улицы, которая раньше называлась Иерусалимской* (сейчас Пушкина), *по фамилии Аизин сделал слив в подземелье и убеждал мою мать поступить так же. Он говорил, что он уже 13 лет не знает проблем с отходами».*

## Как бедный пристав купил себе имение

Далее Надежда Гайдук рассказывает:

*«Однажды бывший директор Слонимского краеведческого музея Иосиф Стабровский рассказал мне в частной беседе, что когда ему было 18 лет, он проводил летние каникулы в Слониме. По его словам, тогда некий гражданин Езерский строил дом на улице Иерусалимской. Когда рабочие рыли яму под погреб, то наткнулись на плиту. Они сумели ее пробить — оттуда с шумом вырвался воздух. Один из рабочих упал в подземелье и в результате погиб.*

*После этого несколько дней подряд у отверстия стоял стражник и не подпускал к нему любопытных.*

*Позже в подземелье была спущена лестница и по ней вниз спустился с фонарем слонимский пристав. Стабровский и еще двое юношей стояли у самой лестницы.*

*Пристав долго не возвращался. Когда же он поднялся наверх, то Стабровский заметил, что у него под шинелью торчит что-то остроконечное, завернутое в фиолетовый шелк.*

*Пристав тут же дал распоряжение замуровать дыру. Стабровский был очень озадачен тем, что же мог страж порядка вынести из подземелья.*

*А через год стало известно, что тот бедный пристав купил себе вблизи Волковыска большое имение. Стабровский не исключал, что пристав взял с надгробия духовного лица тиару (корону) с драгоценными камнями. Фиолетовый шелк — это траурный цвет духовенства».*

## Ходы есть под всеми костелами

Краевед и историк Василь Супрун так прокомментировал догадки относительно слонимских подземелий:

*«Легенд о подземных ходах много. В свое время даже существовала версия, что подземный ход соединяет Слоним с Жировичами и Сынковичами.*

*Дело в том, что в подземных склепах, погребах при отсутствии вентиляции собирается газ, воздействие которого на человека смертельно. Поэтому в те далекие времена не строили подземные ходы на большие расстояния. Однако маленькие туннели могли существовать и эксплуатироваться.*

*Например, я допускаю, что подвалы были под зданиями Академии иезуитов. А в начале 1920-х годов на улице Уланской (ныне — Маяковского) произошел обвал грунта. Власти пригласили для обследования того места Стабровского.*

*К сожалению , выяснить назначение подземелья не удалось, т.к. из-за опасности обвала спуститься в него не было возможным. Однако Стабровский предположил, что тот подземный ход мог связывать лютеранскую церковь* (сейчас на ее месте восстанавливается православный храм) *с замком на левобережье речки Щара.*

*В 1970-71 годах при строительстве здания райпотребсоюза* (улица Маяковского) *на глубине трех метров от поверхности ковш экскаватора задел кирпичное строение.*

*После нескольких тяжелых ударов ковшом машинист пробил каменный панцирь. В открывшемся отверстии удалось рассмотреть туннель, который шел со стороны улицы Первомайской в направлении Щары.*

*Внутренние размеры строения и профилировка пола позволяли судить, что это был подземный ход длиной 21 метр. Оба конца туннеля были завалены кирпичами. Этот подземный ход был высотой 1,95 метра и 1,2 метра шириной. Толщина стен составляла от 64 до 80 сантиметров».*



*Не исключено, что на этом месте тоже могут быть подземные лабиринты.*

Василь Супрун считает, что подземелья в Слониме были. Они были почти под всеми костелами на случай бунтов простого люда или нападений вражеских войск и использовались в качестве запасных выходов. Возможно, некоторые из них сохранились и до нашего времени...

***P.S. На этом мы не ставим точки. Газета и в дальнейшем будет печатать материалы о слонимских подземельях. Мы будем очень признательны читателям, которые готовы рассказать малоизвестные факты о городских подземных лабиринтах. Возможно, с Вашей помощью нам удастся разгадать их тайну.***

**Сергей ЁРШ**

Асоба *Нашы земляки*

# Акцёр, які вырас на Шчары

Дорогие мои земляки!
Счастья вам, здоровья,
терпения и любви!
В. Антоник

*«Я хачу, каб ваша газета была нарасхват, каб людзі з нецярпеннем чакалі кожны наступны нумар. Для гэтага неабавязкова станавіцца ў шэраг з жоўтай прэсай. Трэба проста быць чэсным журналістам, а таксама дапамагаць людзям выжыць у гэты цяжкі час: парадай, верай у сябе...»*

**Уладзімір Антонік, артыст тэатра і кіно.**

Цалкам інтэрв'ю з нашым земляком Уладзімірам Антонікам чытайце ў наступным нумары. Мы толькі нагадаем, што ён зняўся ў фільмах «Русь спрадвечная», «Белыя аддзенні», «Дзікае поле», «Любіць па-руску» і шмат у якіх іншых карцінах.

**В.В.**



*На здымку: кадр з фільма «Дагары нагамі». У. Антонік у ролі Сцёпы.*



АФІЦЫЙНА

**МИНИСТЕРСТВО ФИНАНСОВ Беларуси утвердило новые нормы командировочных выплат.**

С 10 февраля этого года за каждый день командировки в пределах Республики Беларусь сейчас выплачиваются суточные в размере 65 тысяч рублей. Если у вас командировка однодневная или вы командированы в такую местность, откуда имеется возможность ежедневно возвращаться к месту постоянной работы, ваши суточные составят 20 тысяч рублей.

Расходы по найму жилого помещения (исключая время нахождения в пути, кроме водителей грузовых автомобилей и лиц, командированных вместе с ними) возмещаются в размере, указанном в представленных счетах (квитанциях), а без представления подтверждающих документов – в размере 13 тысяч рублей.

Факт

# Паміраем і разводзімся

**З пачатку года ў Слоніме памерла на 16 чалавек больш (116), чым нарадзілася (100).**

Для параўнання: летась у горадзе нарадзілася ўсяго 535 чалавек, а памерла 537; зарэгістравана было 335 шлюбаў і 235 сем'яў распалася. За тры месяцы гэтага года скасавана 55 шлюбаў, а зарэгістравана 80. Побач з гэтымі сумнымі лічбамі ёсць і радасныя. Напрыклад, у мінулым годзе ў нашым горадзе тры сям'і адзначылі залатыя вяселлі і тры – срэбраныя. А сёлета ўжо дзве сям'і святкавалі свае залатыя юбілеі.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

Спорт *Футбол: «Камунальнік» у Першай лізе*

# Нічыя пад музыку аркестра

У мінулую нядзелю адзін з лепшых бамбардзіраў слонімскага футбольнага клуба «Камунальнік» Аляксей Баль забіў свой першы гол у гэтым сезоне. На 28-й хвіліне матча пасля ягонага моцнага ўдара мяч уляцеў у вароты каманды «Тарпеда-Кадзіна».

Дарэчы, гэтай гульні слонімцы чакалі даўно. Упершыню за ўсю гісторыю беларускага нацыянальнага футбола Слонім змагаецца за званне чэмпіёна краіны. Як вядома, першыя два матчы «Камунальнік» правёў у гасцях і балельшчыкі не змаглі на ўласныя вочы пабачыць перамогу і няўдачу сваіх куміраў. Затое 20 красавіка, калі слонімцы гулялі дома, на трыбунах гарадскога стадыёна не было дзе яблыку ўпасці. Па сціплых падліках, на матч было прададзена каля трох тысяч білетаў. Перад гульнёй стадыён прымала камісія Федэрацыі футбола, у складзе якой быў і суддзя міжнароднай катэгорыі Вадзім Жук (ён і судзіў нядзельны матч). Стадыён прынялі, але са шматлікімі заўвагамі. Акрамя таго, камісія параіла не прадаваць падчас матча на стадыёне піва ў бутэльках, каб пляшкі потым не паляцелі ў футбалістаў.

Але абышлося без інцыдэнтаў, хоць і піва было, і музыка. У час гульні на стадыёне іграў аркестр Слонімскай механізаванай брыгады. Пад гукі полечкі «Камунальнік» забіў гол у першым тайме, але на 65-й хвіліне пад мазурку футбалісты «Тарпеда-Кадзіна» зраўнялі лік. У выніку нічыя прынесла слонімцам яшчэ адно ачко, а ўсяго «Камунальнік» мае чатыры ачкі, і займае 9-е месца ў турнірнай табліцы.

**Руслан РАКЕВІЧ**

**РАСКЛАД ГУЛЬНЯЎ СЛОНІМСКАЙ КАМАНДЫ (1 КРУГ)**

**27 красавіка:** *Нафтан-Дэвон — Камунальнік*
**4 траўня:** *МВКЦ — Камунальнік*
**12 траўня:** *Камунальнік — Тарпеда Мн.*
**20 траўня:** *Лакаматыў-96 — Камунальнік*
**29 траўня:** *Белшына — Камунальнік*
**2 чэрвеня:** *Камунальнік — Шахцёр-Беларуськалій*
**12 чэрвеня:** *Камунальнік — Дынама Бр.*
**17 чэрвеня:** *Дынама-93 — Камунальнік*
**25 чэрвеня:** *Камунальнік — Нёман*
**2 ліпеня:** *Камунальнік — Днепр*
**10 ліпеня:** *Дынама Мн. — Камунальнік*
**16 ліпеня:** *Камунальнік — Трансмаш*

**ТАБЛІЦА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПЕРШЫНСТВА ПА ФУТБОЛЕ ПА ВЫНІКАХ 3-ГА ТУРА**

| | Г | А |
|---|---|---|
| 1.Лакаматыў-96 | 3 | 9 |
| 2.Дынама-93 | 3 | 7 |
| 3.МВКЦ | 3 | 7 |
| 4.Днепр | 3 | 6 |
| 5.Дынама Мн. | 3 | 6 |
| 6.Белшына | 3 | 6 |
| 7.Атака | 3 | 5 |
| 8.Дынама Бр. | 3 | 4 |
| **9.Камунальнік** | **3** | **4** |
| 10.Тарпеда-Кадзіна | 3 | 4 |
| 11.Тарпеда Мн. | 3 | 3 |
| 12.Нёман | 3 | 3 |
| 13.Трасмаш Мг. | 3 | 1 |
| 14.ФК Маладзечна | 3 | 1 |
| 15.Нафтан-Дэвон | 3 | 1 |
| 16.Шахцёр | 3 | 0 |

НАВІНКІ КНІГАРНІ

# «ПАСТКА ДЛЯ ПЯРЭВАРАТНЯ»

**Так называецца новая кніга нашага земляка Аляксея Якімовіча, якая на днях выйшла з друку ў Мінску ў выдавецтве «Юнацтва».**

Гэта чацвёртая па ліку кніга Аляксея Якімовіча, куды ўвайшлі дзве аповесці. У першай, якая дала назву кнізе, аўтар уваскрашае падзеі сярэдзіны 14 стагоддзя на Слонімшчыне. У аснове апавядання – напад атрада крыжакаў на вёску Парэчча, пасля чаго ў ваколіцах паселішча з'яўляецца таямнічая жанчына з барадой...Не менш драматычная сітуацыя складаецца і для герояў другой аповесці – казкі «Гуслі на дзікай грушы».

Набыць кнігу сёння можна пакуль толькі ў кнігарнях нашай сталіцы.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

НАШ КАЛЯНДАР

**19 КРАСАВІКА** споўнілася б 90 гадоў Рыгору Акулевічу (1907 – 1974), удзельніку нацыянальна-вызвольнага руху ў Заходняй Беларусі.

Рыгор Акулевіч нарадзіўся і вырас ў вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага раёна. Быў актыўным арганізатарам гурткоў Беларускай сялянска-работніцкай грамады і Таварыства беларускай школы, а таксама беларускай бібліятэкі імя Янкі Купалы ў вёсцы Вялікая Кракотка.

Каб пазбегнуць арышту з боку польскай паліцыі, у 1928 годзе ён эміграваў у Канаду, дзе і пражыў усё сваё астатняе жыццё. Там удзельнічаў у стварэнні рабочафермерскага клуба. У гады Другой сусветнай вайны добраахвотнікам пайшоў на фронт, дзе быў цяжка паранены.

Пасля вайны наш зямляк выдаў дзве кнігі, у тым ліку «50 год Беларускай рэспублікі» (Таронта, 1968г.).

**22 КРАСАВІКА** слонімская механізаваная вайсковая брыгада адзначыла 55-годдзе з дня заснавання часці.

**30 КРАСАВІКА** спаўняецца 10 год з дня прысвяення СШ N 4 імя двойчы Героя Савецкага Саюза генерала арміі Паўла Батава, удзельніка вызвалення Слоніма ад фашысцкіх захопнікаў.

**Падрыхтаваў С.Ч.**

Гэта цікава

# Першымі пакаштавалі каву козы

Аднойчы адзін арабскі пастух заўважыў, што яго козы пачынаюць весяліцца, калі наядуцца лісцяў расліны «кавах». Назва расліны пайшла ад эфіопскай мясцовасці Каффа. Пазней арабы самі пакаштавалі зярняты гэтай расліны...

Самая першая кавярня адкрылася ў Стамбуле ў 1517 годзе. У Еўропе першая кавярня з'явілася ў 1592 годзе ў Венецыі, у 1652 – у Лондане, у 1670 годзе – у Рыме.

Тым не менш, у кавы былі не толькі свае прыхільнікі, але і праціўнікі. Напрыклад, у 1664 годзе на вуліцах Марселя адбылася нават дэманстрацыя пратэсту жанчын, падчас якой яны намагаліся, каб улады зачынілі кавярні. Жанчыны былі незадаволеныя тым, што іх мужыкі ўвесь час праводзяць у кавярнях і таму мала знаходзяцца дома. Кава, як адзначалі тады сучаснікі, стала прычынай нізкай нараджальнасці ў Марселі. А вось у Йемене да нядаўняга часу ўвогуле не было ніводнай кавярні, таму што наведанне іх забараняла рэлігія. Кавярня, на думку духавенства, таксама, як і музыка, была вынаходствам сатаны.

Шведскі кароль Густаў III (пачатак 18 ст.) правёў эксперымент: ён вырашыў высветліць, як на самой справе кава ўздзейнічае на чалавека? У Швецыі тады былі асуджаны да пакарання смерцю двое братоў-блізнятаў. Густаў III замяніў ім смяротную кару на пажыццёвае зняволенне, але пры ўмове, што адзін з братоў будзе кожны дзень піць каву ў вялікіх колькасцях, а другі – гарбату. За час эксперыменту памёр кароль-даследчык. А той з братоў, які піў гарбату, дажыў да 83 гадоў. Другі ж, якога прымушалі піць каву, пражыў на пяць гадоў болей. Такім чынам у Швецыі скончылася палеміка на конт шкоднасці кавы: шведы і сёння лічацца вялікімі аматарамі гэтага напітка.

**ПРЫВАТНЫЯ РЭКЛАМНЫЯ АБ'ВЫ** існуюць з часоў Старажытнага Егіпта. Падчас раскопак развалінаў Мемфіса археолагі знайшлі высечанае на камяні: *«Я, Рына з вострава Крыт, паводле волі багоў тлумачу сны»*. У Брытанскім музеі ў Лондане можна ўбачыць старажытнагрэцкі папірус: *«Прадаю раба. Добра чуе абодвума вушамі, бачыць абодвума вачыма. Гарантую паслухмянасць і сціпласць у ежы»*. Аднак мэтанакіраваны і масавы выпуск газетаў прыватных аб'яваў пачаўся толькі ў сярэдзіне 70-х гадоў нашага стагоддзя ў Канадзе, а першая еўрапейская газета бясплатных аб'яваў з'явілася ў 1977 годзе ў Мілане (Італія).

**Падрыхтаваў Сяргей Ёрш**


Газета Слонімская
Рэг. 947 ад 24.03.1997г.

*Заснавальнік і рэдактар Віктар Валадашчук*

*Адрас рэдакцыі: 231800, Слонім, вул. Брэсцкая, 109-1-12. Тэлефон 5-24-12*

*Падпісана да друку 23 красавіка 1997 Час падпісання 10:00*

*Надрукавана ў Слонімскай узбуйненай друкарні, вул. Хлюпіна, 16*

*Наклад 3.000 экз. Заказ N 459 пу Падпісны індэкс 64042*